Год VI. СЬНЕЖАНЬ 1928 г. Кніжка 10 (20)



## Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

140521

ЗЬМЕСТ:



Цана асобнага нумару 30 гр.

Беларуская Друкарня ім Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарная вул. № 1.

# ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА

## на сельска-гаспадарчую часопісь

# „САХА“

## на 1929 год.

Усе гадавыя падпішчыкі, выслаўшыя плату да 15 лютага, атрымаюць апрача нумароў «Сахі» яшчэ 2 пробкі заводзкага насеньня і кніжку з сялянскае бібліотэкі **«Як палепшыць пяшчаную глебу»**.

Тыя падпішчыкі, якія прышлюць адным пераказам падпіску на пяць нумароў—шосты дастануць дарма.

**Гадавая падпіска 3 злоты.**

**На паўгоду . . 1 зл. 75 гр.**

**Дарма „САХУ“ ня высылаем.**

*Адрэс Рэдакцыі: Вільна, вуліца Св. Анны 2—3.*

# САХА

## Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Спэцыялізацыя дробнае сельскае гаспадаркі.

З сумам праводзім у мінуўшчыну 1928 год, год неўраджаю і розных бед нашай старонкі. Пасьля частковых недародаў і стыхійнае катастрофы над некаторымі паветамі Заходняе Беларусі, што так балюча далося адчуць беларускаму працоўнаму сялянству за 2 апошнія гады, неўраджай ізноў заглянуў страшным сваім тварам у сялянскую хату. Няшчасьце ізноў кліча нас да самаахвярнасьці і арганізованасьці для ліквідацыі бяды, ізноў нам прыходзіцца напружаць усе сілы, каб прабіцца гэты цяжкі год, спаткаць такое-ж самае паўгодзьдзе 1929 году, пакуль новы ўраджай ня дасьць магчымасьці нашаму краю забыцца ад перажытых няшчасьцяў.

Працуючы па арганізацыі дапамогі пацярпеўшым ад няўраджаю, мы мусім цяпер падумаць аб тых сродках, якія могуць прычыніцца да ўхіленьня ў будучыні паўтарэньня сталых у нас недародаў. Натура наша такая, што ў часе бяды мы толькі разважаем над ёй і шукаем выхаду. Кідаючы ў гэты сумны момант вокам па сьвеце, можна заўважыць, што падобныя зьявішчы з неўраджаем якраз больш усяго здараюцца ў старонках з адсталым земляробствам, дзе земляроб мучаецца з прымітыўнымі хвормамі гаспадаркі, заведзенымі некалькі сталецьцяў таму назад нашымі продкамі і якія сягоньня нашу гаспадарку пры зьмяніўшыхся варунках прывялі, як кажуць, да абуха.

Праўда, разглядваючы прычыны нашае бяды, мы ня можам закрываць вочы на абставіны ад нас незалежныя. Маем мы капрызны клімат, месцамі зусім бедную глебу, вострае малазямельле, мала радуючыя нас (лагодна кажучы) варункі палітычнага і эканамічнага характару, якія, як быццам, на радасьць нашым ворагам змовіліся скрэсьліць з зямной кулі існаваньне беларускага народу.

Вось-жа, каб папярэдзіць перадчасную гэту радасьць, беларускі селянін мусіць ня толькі бядаваць, але і паглядзець крытычна на самаго сябе. Гэта самакрытыка зьверне яго ўвагу на адʻемныя бакі сваей гаспадаркі і заваюе ў яго сэрцы больш прыхільнае адносіньне да разумных паляпшэньняў у галоўнае крыніцы свайго існаваньня —

140521

Lietuvos TSR Centr. Biblioteka Mokslų Akademija

земляробстве. У гэтае галіне, як бачым, чакае нас вялізарная і ўдзячная работа не адзінак спэцыялістаў і ідэалістаў, а ўсяго нашага народу.

Беларускі народ — народ працоўны, сялянскі і перад усім малазямельны. Дробная гаспадарка ў нас, дзякуючы частым падзелам, даўно ўжо мае перавагу над іншымі разам гаспадаркамі ня толькі па колькасьці адзінак, але і па занімаемай плошчы. Зразумела, што ў першую чаргу мы мусім абвесьціць сьмяротную вайну экстэнсіўнасьці*) якраз у дробнае гаспадарцы. Мы лічым шкодным цяпер карміць беларускае сялянства „рознымі рольнымі рэформамі“ якім даём цану „абяцанка-цацанка“, а клічам да адзінага рэальнага пры сучасных палітычных умовах выходу з стварыўшагася палажэньня — зьмены гаспадарчага кірунку і інтэнсыфікацыі**) паасобных галін сельскае гаспадаркі.

Да гэтага часу ў нас яшчэ моцна налягаюць на атрыманьне ў гаспадарцы як найбольш збожжа. Жывёлагадоўля, садаўніцтва, птушніцтва і іншыя галіны маюць пакуль што другараднае значэньне. Якраз гэты пагляд больш усяго моцна ўкараніўся пасярод дробных гаспадароў, якія дзеля чаго і балючэй яго адчуваюць, асабліва ў такія годы, як апошнія.

Спэцыялізацыя паасобных галін сельскае гаспадаркі, прыпасоўваньне іх да мясцовых варункаў, выраб як найбольш аднароднага добраякастнага тавару — вось галоўныя вехі для дробнае гаспадаркі, якія вызначыла сучасная эканоміка. *Хаця і ня ўсё свае, але каб на ўсё было, на ўсё хапала* — мусіць стаць нашым дэвізам (правілам).

*У. Павалковіч.*

# Некалькі ўваг да культуры аўса на Беларусі.

Усім ведамая расьлінка-авёс займае на Беларусі бадай што першае месца сярод нашых яравых збажын. Мы прывыклі глядзець на авёс, як на культуру мала вымагаючую ад глебы і ўгнаеньня, дзеля чаго пад авёс заўсёды адводзім самыя горшыя глебы, а месца ў севазвароце — далей ад угнаеньня. Такі пагляд на культуру аўса прычыніўся да таго, што ураджай яго ў нас стаіць самы нізкі. Нярэдка можна назіраць тыповыя для нашага земляробства аб-

*) Экстэнсіўнасьць сельскае гаспадаркі — сыстэма сел. гаспадаркі пры якой не зварачваецца ўвага на ўгнаеньне, акуратную апрацоўку ральлі і іншыя палепшэньня.

**) Інтэнсіўнасьць — сыстэма праціўлежная экстэнсіўнай.

разкі, што ўяўляюць сялянскія ніўкі, засеяныя аўсом. Пасярод буйных сарнякоў, часам ласкаючых вока сваім прыгожым відам, змагаюцця за сваё існаваньне анэмічныя расьлінкі аўса. Нудны гэты абразок сьведчыць, што культура аўса ў нас у заняпадзе, што тыя, навет сярэднія ўраджаі (50—60 пуд. з дзесяціны), далёка не задаваляючыя.

Праўда, асёс годзіцца з усялякімі глебамі, былі-б яны ня сухімі пяскамі. Дзякуючы сільнай карнявой сыстэме з сільнай усваяючай здольнасьцёй, авёс можа дастаць сабе спажыву з тых складніковых хворм, якія для другіх збажын (жыта, пшаніцы і інш.) не даступны. Але гэтыя складнікі трэба падгатаваць для аўса адпаведнай падрыхтоўкай глебы. Гэтага дасягаюць воркай па жніўі і другой ворка на зіму.

Авёс патрабуе з пасярод нашых збожжаў найбольш вады для прарастаньня насеньня і для далейшага росту на полі. Гэтыя асаблівасьці аўса часта прымушаюць гаспадара не рабіць вясной воркі, а абмяжавацца толькі ўспульхненьнем верхняга слою зямлі спэцыяльнымі культыватарамі, або прастымі баронамі. Гэтыя-ж самыя асаблівасьці аўса прымушаюць гаспадара пасьпяшыць вясной з пасевам яго, каб захапіць у глебе найбольш сьняговай вады, але гэта зрабіць будзе карысным толькі тады, калі нашы ніўкі будуць свабоднымі ад сарнякоў. У праціўным выпадку лепш зпазьніцца з пасевам на дзён 10 і ў гэты час, як пакажуцца сарнякі, зьнішчыць іх бараной. Калі грунт зьвязлы і ад восеньніх і вясновых дажджэй глеба заплыла, дык тут толькі простай бараной нічога зрабіць нельга, а трэба пусьціць абавязкава культыватар ці пружыноўку. Зьяўленьне пасьля пасеву сарнякоў павінна прымусіць гаспадара ўжываць *сільнае баранаваньне*. Барана, ужытая ў адпаведны час, ня толькі пашкодзіць руні аўса, але заставіць маладыя расьлінкі да шпаркага развою цераз успульхненьне верхняга слою глебы. Шпаркі рост аўса потым заглушыць сарнякі без дапамогі з боку чалавека.

Цяпер затрымаемся на ўгнаеньні аўса. Хаця і сказана, што авёс уладае сільнай карнявой сыстэмай, але на ўнясеньне ўгнаеньня авёс удзячны і аплачвае кошт яго з прыбыткам. Калі аўсу не патрэбна угнаеньня, дык гэта можна сказаць *пра паташ (калій), якога дастае сабе расьлінка з трудна распушчальных складніковых паташовых хворм глебы*. Значыць, авёс паташовых угнаеньняў не патрабуе, за выняткам лёгкіх пяскоў, дзе паташ можа быць у мінімуме.

За тое авёс добра адклікаецца на азот і фосфор. *На землях багатых перагноем, як роўна пасьля стручковых расьлін ці пасьля зялёнага ўгнаеньня, азоту для аўса не патрэбна.*

У гэтых варунках авёс дае буйную зялёную масу, але на шкоднасьць зярню, ці як кажуць „авёс не ўмалотны“.

*Тут можа памагчы толькі ўнясеньне ў глебу фосфару.* Будзе бальшой абмылкай, калі пры добрым ураджаю аўса, але пры слабым яго ўмалоце, гаспадар упусьціць магчымасьць лёгка зарабіць, унёсшы ў глебу фосфар.

Практыка паказала, што найлепшым для аўса з фосфаравых угнаеньняў будзе супэрфасфат. З азоцістых угнаеньняў у нас, трэба думаць, што будзе больш падыходзячым азатняк, які прыблізна на палову дзешавей за чылійскую салетру.



Як уплываюць на ураджай парашкі: 1-ая зьлева вязанка аўса без угнаеньня, 2-я па фосфару і 3-я па фосфару і азоту.

Сеючы азотняк і супэрфасфат, трэба памятаць, што гэтыя два ўгнаеньні ніколі ня варта мяшаць, або разам высяваць. *Азотняк можна ўнасіць ў глебу не раней 10 дзён перад пасевам збожжа,* а супэрфасфат можна зараз перад пасевам аўса. Дзесяціднёвага перарыву між пасевамі азатняку і супэрфасфату *абавязкава* трэба прытрымлівацца.

Згодна з практыкай лепшых нашых гаспадароў і шматлічэбных досьледаў ў нас можна высяваць:

**Угнаеньне азоцістае:** азатняк ці сярчаны амоняк (амон) 100—150 кіл. на дзес.

**Угнаеньне фосфарное:** супэрфасфат 16%—200—300 кіляграмаў на дзесяціну.

Угнаеньне паташовае: (толькі на глебах пяскавых).

Соль паташовая 30%—200 кілягр. на дзес.

Каініт 400—600 кілягр. на дзес.

Ведама, што паданыя лічбы не павінны служыць гаспадару для сьляпога выкананьня. Гаспадар павінен іх прыпасоўваць да мясцовых варункаў.

Заканчываючы гутарку пра культуру аўса, я браў дадзеныя ў гэтым нарысе з асабістай практыкі і буду рад, калі нашы паважаныя чытачы з маіх назіраньняў над культурай аўса хаця частку скарыстаюць для сваей практыкі.

*Стары Гаспадар.*

## Культура азімага ячменю.

Заграніцай пачынаюць ўсё больш і больш цікавіцца новаю культурнаю расьлінаю — азімым ячменём. На практыцы гэта расьліна паказала, што яна зьяўляецца вельмі выгаднай для гаспадаркі культурай. Шкада, што на Беларусі гэтай расьлінай ня цікавяцца навет і нашы перадавыя гаспадары і мы яшчэ ня маем дадзеных з нашае практыкі, каб сказаць аб тэй карысьці, якая яна можа прынесьці ў нас, пры нашых кліматычных і глебавых умовах. Думаецца, што ў паўднёвай частцы нашае Бацькаўшчыны, а магчыма і далей на поўнач, азімы ячмень знойдзе сабе адпаведную зону для культуры.

Выгада азімага ячменю ў нас будзе той, што гэта расьліна пасьпявае раней за жыта на 2 і больш тыдні. Гэта асаблівасьць культуры азімага ячменю паможа лягчэй нам змагацца з крызысам харчавых прадуктаў, які заўсёды ў гэты час адчуваецца ў нас. Апрача таго, азімы ячмень, звальняючы рана ніву, дае магчымасьць яе скарыстаць у тым жа гаду другой культурай, як напрыклад — турпэнсам, вікай на зялёны корм.

Ураджай азімага ячменю пры кліматычных умовах Чэхіі дае ад 120 да 150 пудоў зярня з дзесяціны. Салома мяккая і добра надаецца для корму жывёле.

Азімы ячмень дае добрае зярнё для корму і для тэхнічных мэтаў.

Яго трэба сеяць увосень за тыдзень раней жыта. Вымаганьні ад апрацоўкі ральлі і ўгнаеньня аднолькавыя з рэштаю азімых хлябоў.

Вельмі пажадана, как нашы перадавыя гаспадары больш зацікавіліся гэтай расьлінай і пачалі яе завовзіць на сваіх ніўках, на першы пачатак хаця-б з дасьледчай мэтай.

*І. А.*

## Арганізуйма машынныя таварыствы.

*Ужо* некалькі гадоў як мы пастанавілі цэлай вёскай купіць машыну-зьмейку, што сартуе насеньне па вазе. Радзіліся, хісталася, а сарнякі на полі цешыліся з нашай нядбаласьці. Веялі мы зярнё на звычайных веялках, сартавалі

на бальшым таку, але дзічка і віка неяк усё ня думала аддзяляцца ад аўса. Нарэшце, сёлета, мы замест аўса, зьбіраем адну дзічку ды віку. Тут тольві зразумелі, што чакаць чагосьці далей будзе ня толькі шкодна, але і сьмешна. Затаргавалі ў Вільні за 120 злотых зьмейку, злажыліся нас 31 гаспадароў па 4 зл. і 30 гр. (9 зл. за дастаўку машыны) і прывязьлі.


Зьмейка.

За тыдзень часу ўсе пайшчыкі адсартавалі свой насенны матэрыял і цяпер зьмейка працуе для іншых суседніх вёсак і гэтым самым пакрывае выдаткі па яе пакупцы.

Цешацца сяляне, што нарэшце яны атрымліваюць насеньне чыстае. Сьмешна стала тым гаспадарам, што так доўга не адважываліся „на такі рызыкоўны шаг".

Прыклад з пакупкай зьмейкі заахвоціў больш разумных гаспадароў на будучы год купіць суполкай іншыя машыны, як трыор, талерачную барану для вырабу дзёрвана і іншыя.

Такім чынам зрабілі першы крок да залажэньня ў нас машыннага таварыства. Думаем, што ізноў будзем радзіцца, вагацца, знойдуцца некаторыя, што будуць па сваёй несьвядомасьці перашкаджаць арганізацыі таварыства, але патрэба часу, вымаганьні жыцьця зробяць сваё і ў нас хутка будзе цэлы камплект патрэбных сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, купленых вёскай-суполкай.

Як гэта проста?

Вёска Гароднікі. Селянін *Пляхтур.*

# Выбар сьвіньні на племя.

У папярэднім нумары „Сахі" я ўжо сказаў, што сьвіняводзтва на Беларусі пры сучасных эканамічных варунках нашага краю, зьяўляецца вельмі карыснай галінай сельскае гаспадаркі. Калі мы пераходзім да больш рацыянальнае гаспадаркі і зварачваемся ад зернавога кірунку да жывёлагадоўлі, дык сьвіньня мусіць, асабліва ў дробных гаспадарках, заваяваць сабе больш пачэснае мейсца.

Мы мала зварачваем увагі на выбар племяной маткі. Між тым, далёка ня кожную саміцу можна пакідаць на племя. Сьвіньня дае ў гаспадарцы цэлую гэнэрацыю патомства, якое пераймае ад маткі ўсе яе як адʻемныя, так і дадатныя фізіолёгічныя асаблівасьці.

Перш-на перш на расплод трэба выбіраць сьвіньню рослую, доўгую, з глыбокай грудзінай, з крутымі рobрамі, з роўнай ды шырокай сьпіной і шырокім і роўным задам. Бруха павінна быць не адвіслым, але і не западлым.

Пад брухам у племяной сьвіньні трэба, каб добра вызначаліся ня менш 10—12 цыцак—гэта прыкмета, што матка будзе малочнай і соснай.

Племяная сьвіньня павінна паходзіць ад плоднае маткі. Характар павінен быць лагодны, сьмірны. Апэтыт заўсёды добры і на ежу не разборчывы.

Шкодна пускаць сьвіньню рана да кнура; раней 10-ці месячнага веку ніколі ня варта задавальваць яе палавыя патрэбнасьці. Лепш яе дадзяржаць да году. Сьвіньня, якая сама не даразьвіта, ня можа даць добрых парасят, бо ў гэты час ей трэба самой расьці і адначасна насіць, а потым гадаваць дзяцей. Вось, па гэтай прычыне пяршачкі і прыводзяць мала і дробных парасят, якія і растуць марудна. Найлепшымі маткамі на расплод будуць сьвіньні у веку 2—4 гадоў. У гэтым веку сьвіньня, будучы ўжо добра разьвітай, дае парасят дужых і добра надаючыхся на племя.

Ня трэба падкрэсьляць, што сьвіньню ў часе сасеньня парасят трэба добра карміць. Тут пажадана дамешваць да сільнага корму яшчэ і зялёнага, як канюшыну, крапіву ці іншую зялёную траву. Зялёны корм заўсёды добра ўплывае на малочнасьць сьвіньні зімой. Калі дастаць у нашых гаспадарках зялёнага корму амаль што нельга, трэба даваць пабольш зьбіранага малака, масьлянкі і сыраваткі.

Кожнае парася звычайна прывыкае да аднэй цыцкі. Гэтай прывычкай гаспадар мусіць скарыстаць у сваіх мэтах. Як толькі сьвіньня апаросіцца, зараз-жа трэба выбіраць найлепшых парасят, якія вызначаюцца на племя і прыстаўляюць да пярэдніх цыцак, як больш малочных. Тады гэтыя парасяты ад цыцкі выходзяць рослымі, складнымі і годнымі як племяны матэрыял. Такая саміца бывае годна для расплоду ўжо цераз 10—12 месяцаў, а расавыя, скарасьпелыя сьвіньні і таго раней.

Найлепшай парой для парасеньня трэба лічыць вясну. У гэты час паросная сьвіньня мае даволі зялёнае пашы, а парасяты, як падрастуць і падужэюць, добра разьвіваюцца на свабодзе, пасучыся на полі.

Дома парасятаў трэба дакармліваць з трэцяга тыдня цёплым зьбіраным малаком, а з 4-га тыдня дадаваць высе-

вак з мукі. Каб парасяты прывыкалі да цьвёрдага корму, пажадана іх паступова прывучаць да жаранага ячменю ці жыта—ўжо з 3 га тыдня. Цераз месяц ім даюць ужо бульбу, буракі, абмешаныя мукой. Парасятам, вызначаным на племя ня трэба шкадаваць свабоднага паветра і руху.

Адлучаюць парасят ад маткі ў веку 8 мі тыдняў,

Калі ў гаспадарцы ня маецца цёплага, сухога і сьветлага памяшчэньня, дык пажадана, каб сьвіньня парасілася адзін раз ў год. У цёплым хляве можна дапусьціць парасеньне і 2—разы,—Месяц люты для першага і ліпень для другога разу ў нашым краю будуць найлепей надавацца для парасеньня. *П.*

# Першая дапамога пры кульганьнях коней.

Розныя віды кульганьнаў у коней часта нясуць гаспадару нявылічальныя страты. У самую гарачую рабочую пару бывае, што конь раптоўна закульгавае. Гаспадар у роспачы, бо ў гэты час бывае, што няняць каня і за грошы немагчыма, а па другое, пакідаючы каня без адпаведнага лячэньня, гаспадар наражае сябе на страту, згубіўшы ў кані здольнасьць і да далейшай працы.

Першая дапамога з боку вэтэрынара тут было-б вельмі пажадана, але бывае, што да вэтэрынарнага пункту далёка, ды апрача таго нашым сялянам да яго зьвяртацца трудна з боку кішэні. У гэтым выпадку прыходзіцца задавольніцца сваей ведай.

Каб пайсьці на сустрэчу нашым чытачам у пашырэньні веды аб спосабах лячэньня розных відаў кульганьняў, зьмяшчаем у гэтым нарысе цэлы чарод практычных парадаў вэтэрынарнага ўрача Серады.

**Кульганьне.** Кожная жывёла можа закульгаць пры зьвіхах, зломах, расьцяжэньні цягніц (жылаў) і суставаў, або проста пры зашыбах і ад розных іншых прычын.

Дазнацца з якой прычыны закульгала жывёла бывае даволі трудна, як трудна бывае найсьці балючае месца дзе-небуазь у назе, ад якога жывёла кульгае. Вось чаму кожны раз лепш зьвярнуцца да вэтэрынара за парадай. Але часамі бывае патрэбна і самаму гаспадару ўжываць тыя ці іншыя спосабы дапамогі каню або іншай жывёле, калі тыя закульгаюць.

Перадусім, трэба даведацца, на якую нагу жывёла прыпадае, а потым ужо шукаць прычну хваробы і тое хворае месца, адкуль ідзе кульгавасьць.

Часамі не адразу і разьбярэш, на якую нагу жывёла кульгае. У такіх разох трэба глядзець ня так на ногі, як

на галаву, бо конь хворы, напрыклад на *пярэднюю* нагу, падні мае кожны раз галаву тады, калі ступае на хворую нагу, а кульгаючы на якую-небудзь *заднюю*—будзе спускаць галаву *ўніз*, ступаючы на хворую нагу.

Дзеля гэтага спачатку трэба папрабаваць кульгавага каня, правёўшы яго стапою, а потым крыху пагнаць і трушком, спачатку па мяккаму, а потым і па цьвёрдаму грунту.

Калі конь моцна падымае і быццам выкідывае нагу наперад — гэта сьведчыць, што боль дзесьці ўверсі нагі, а калі конь асьцярожна прыступае і зьлёгку ставіць нагу на грунт і баіцца на яе абапёрціся, дык можна думаць, што хвароба крыецца ў нізе нагі.

Аднак, ня досыць яшчэ абгледзець хворую нагу: яшчэ трэба абшчупаць яе рукамі, каб даведацца, ці ня мае яна дзе вопуху, ці не гарачэйшая яна ў якім-колечы месцы. А каб распазнаць хваробу ў капыце, патрэбна яшчэ папрабаваць капыт і абцугамі. Звычайна агляд хворае нагі пачынаецца з капыта і раўнуючы хворую да здаровае нагі, шукаць на ёй захварэўшага месца.

Даволі часта прычынаю кульганьня бывае сплечаньне каня на пярэдней назе і клубавое кульганьне—на задняй назе.

**Сплечаньне** бывае ад розных прычын: то ад збою, то ад расьцяжэньня плечавога суставу, ці ад застуды, ці апою і іншых.

Калі конь сплечыцца, дык ён пачынае кульгаць так, што шагі хворае нагі робяцца карацейшымі, нага падні-маецца над зямлёю, так што праз якую-небудз перашкоду конь заўсёды кульгае менш, чым ідучы на гару; ён прысядае, калі яго крута павярнуць на хворую нагу. Стоячы-ж на месцы, такі конь выстаўляе хворую нагу наперад. Досыць часта ў хворым плячы ніякіх зьмен можна і не найсьці. Але часамі, калі конь закульгаў толькі нядаўна, прымячаюць вопух і гарачыню ў плячы, а калі хвароба задаўняга, дык плячо пачынае ўжо ўсыхаць.

**Клубавое кульганьне** здараецца ад тых самых прычын, што і сплечаньне, толькі яно бывае на задняй назе ў клубавым суставе.

Распазнаюць яго тым, што пры ходзе конь мала выкідывае наперад хворую нагу, робіць ёю карацейшы шаг, а часам і загрэбвае ёю. (Гл. рыс 3).

Хворая нага не падымаецца высока над грунтам, клуб ападае крыху ўніз, праз што і скрыўляецца крыж. Асабліва конь моцна кульгае, калі яго крута павярнуць у бок хворае нагі. Стоячы на мейсцы, такі конь адстаўляе хворую нагу назад і ўбок.

Лечаць сплечаньне і клубовае кульганьне не аднальково. Спачатку ўжываюць ахаладжэньне (гліну), а дзён

праз 3—5, калі гарачыня памяншаецца, робяць расьціраньне з шэрай мазі (можна купіць у аптэцы), або ставяць на хворы сустаў гарчычнік.

Хворую жывёлу трымаюць у хляве бяз працы, нікуды яе не паганяюць, нават носяць ей ваду ў хлеў і потым, калі яна зусім перастане кульгаць, пачынаюць браць яе на самую лёккую працу, але спачатку на кароткі час.

Пры задаўненай хварабе робяць уколы з розных лякарстваў.



Рыс. 3.

**Ахват** (апойка). Ахватам завуць тыя хваробы ў жывёлы, што звычайна ў людзей завецца рэўматызмам, ламатою. Найчасьцей ахват бывае ў каня і залежыць ад двух галоўных прычын: ад застуды або ад неадпаведнанага кармленьня.

Распазнаецца хвароба тым, што конь раптам робіцца смутны, перастае есьці, заплюшчвае вочы і цяжка дыхае. Калі спрабаваць крануць ахвачанага каня з месца, дык ён упіраецца і ня хоча ісьці, а потым пачынае паволі пераступаць хворымі нагамі і хадзіць як спутаны. Ногі, (асабліва капыты) робяцца гарачыя і скура набракае на іх, стаяць такія коні сагнуўшы сьпіну і падабраўшы пад сябе заднія ногі, каб на іх узваліць увесь цяжар; пярэднія-ж ногі далёка выстаўляюцца ўпярод.

А калі хвароба захопіць усе чатыры нагі, дык і пярэднія ногі падводзяцца пад жывот.

Чым раней пачнуць ратаваць хворую жывёлу, тым больш надзеі, што яна хутка ачуняе Часта ахват зацягваецца і калечыць каня на заўсёды.

Захварэўшага каня трэба адразу раскаваць і паставіць на густа замешаную гліну, а ў летку ставяць па бабку ў рэчку, каб адхваціць канцы ног. У сярэдзіну даюць глаўбэравае солі каля 1 фунта ў дзень на два разы. Ногі расьціраюць лятучаю мазьзю або шкіпінарам з алівай папалам. Падчас лячэньня каню трэба даваць лёгкага і на налову менш корму.

Трэба мець на ўвазе, што ахват мае нахіл вельмі лёкка паўтарацца і часамі дрэнна ўплывае на сэрца.

**Улога** азначаецца тым, што спачатку конь пачынае патроху прыпадаць на заднюю нагу, але толькі спачатку хады, далей-жа разыходзіцца і перастае кульгаць. Цераз тыдзень-два кульгавасьць павялічваецца і адзначаецца невялікі, але цьвёрды вопух на ўнутранай паверхні скакацельнага сустава.

Каб упэўніцца, ці сапраўды ў каня ўлога, робяць так званую спробу на ўлогу: (Гл. рыс. 4) падкручваюць нагу,



Рыс. 4.

падняўшы яе высока і трымаюць яе так хвілін пяць, а потым раптам пускаюць нагу з рук і прымушаюць каня з месца бяжаць. Калі ў каня будзе сапраўды ўлога, дык пасьля такое спробы ён востра закульгае з месца.

Лечаць улогу, як і іншыя накосьнікі, пераважна пякучымі расьціраньнямі, але гэта вельмі рэдка памагае. Часьцей улогавы конь перастае цераз некаторы час кульгаць

сам сабой і толькі пачынае неправільна хадзіць, высока падымаючы нагу.

Здараецца, што ўлога можа перадавацца жарабяці ў спадчыну, дзякуючы чаму ў маладога каня можа зьявіцца ўлога з першых-жа гадоў працы. Вось чаму гэтакіх канёў ня варта пакідаць на племя.

# Хваробы пладоывх дрэваў.

Калі мы ўважліва даглядаем за пладовымі дрэвамі ў саду з першых дзён іх пасадкі і набываем здаровыя прышчэпкі, дык часьцей усяго дрэвы ўсё жыцьцё астаюцца здаровымі. Калі-ж па якой-небудзь прычыне дрэва захварэла, дык пасьпешнасьць ў леках яго — першае правіла.

Шмат шкоды нашым садам прыносіць мароз — ад яго лопаецца на дрэве кара часам аж да самай дрэвясіны. Калі гаспадар заўважыць такую лопаўку на карэ, трэба зараз-жа вычысьціць яе, абрэзаць краі, зьбянтажаваць рану палатняным бінтом, а паверх абмазаць садовай мазьзю.

Ад марозу, а таксама калі галінкі труцца адна аб другую, або штамб аб кол, можа зьявіцца хвароба кары **ажога ці антонаў агонь.** Пазнаць гэту хваробу можна па наступным прыкметам: кара ў гэтым месцы пачарнела і амярцьвела; калі парушыць гэта месца пальцамі, дык кара асыпаецца як парашок; трохі далей ад гэтага месца расходзяцца буруя плямы.



Ажога.

Самым лепшым спосабам змаганьня з ажогам — не дапушчаць галінкі і штамб цёрпіся, дзеля чаго густыя галінкі трэба вырэзваць. Тое месца, дзе кара набухла, трэба добра выскрабсьці нажом аж да самага здаровага слою, хаця-б пры гэтым прышлося закрануць дрэвясіну; рану потым прамыць вадой з вапнай і замазаць садовай мазьзю.

Калі мы будзем даваць пад дрэва церазмерна багатае ўгнаеньне ці пасадзім дрэва ў сырую глебу, дзе пастаянна працякае і задзержваецца вада, дык можа зьявіцца хвароба **рак** дрэва. Па вонкаваму выгляду гэту хваробу можна лёгка адрозьніць ад ажога: на карэ ствараецца разрыў і краі яго абрастаюць шышкамі і гузамі бурага колёру. Шышкі гэтыя разрастаюцца, рана пашыраецца, дрэвясіна гніе, зьяўляюцца новыя невялічкія ранкі, і калі хвароба запушчана, дык з хворага месца цячэ быццам гнаёвая жыжка.

Рак вельмі шкодная хвароба і заразнага характару. Трудна падаецца лячэньню, асабліва ў запушчанай хформе. У гэтым выпадку лепш дрэва выкапаць і спаліць, яму засыпаць сьвежай зямлёй і асьцерагацца дрэўка садзіць на першых парах ізноў на гэта месца, бо грыбкі — зачаткі хваробы рака могуць захавацца ў зямлі і заразіць пасаджанае дрэва.



Рак.

Калі лекі дрэва і маюць некатары пасьпех, дык толькі ў пачатку зьяўленьня на дрэве прыкметаў рака. Лячыць рак трэба спачатку як і ажог: вырэзаць усю хворую кару і дрэвясіну, зрэзаць усе шышкі і хвараблівыя наросты, а ранкі смазаць чыстай смалой-жывіцай, або зьмяшаць дзёгаць з попелам (пажадана са сьвежым) і гэтай сумязьзю шчыльна заклеіць глыбокія ранкі на дрэве.

На вішнях і сьлівах можа зьявіцца хвароба так званая **камедная**, пры якой з царапінаў і ранаў дрэва на карэ цячэ густы клейкі сок камедзь. Часта гэта хвароба зьяўляецца на дрэвах, пасаджаных на багатай глебе, але беднай вапнай. Як відаць, тут нашы забегі даць шмат спажывы дрэўцу ідуць на шкоднасьць яму.

Як толькі садавод заўважыць кроплі камедзі — трэба зараз-жа ачысьціць нажом камедзь і гэта месца старанна абмыць воцатам разы 2 з адвагадзінным перапынкам. Калі камедзі выцякла шмат і кара пад ёй палопалася сільна, дык трэба вырэзаць і кару нажом да самай дрэвясіны, а рану выцерці насуха, потым уверх і ўніз ад краёў гэтага зрэзу нарэзаць неглыбока кару нажыкам і замазаць гэтыя надрэзы сумязьзю гліны, вапны і кароўяга калу. Зямлю каля карэньняў трэба успульхнуць і ўгноіць гашонай вапнай.

*Садавод.*

## Гаспадарчыя парады:

**Пытаньне**: На прышчэпы ў саду часта нападаюць зайцы і абгрызаюць кару. Ці ёсьць пэўныя срэдствы проціў гэтых шкоднікаў?

**А. Наліўка.**

**Адказ.** Звычайна маладыя яблыні захоўваюць ад зайцаў саломенымі матамі і яловымі галінкамі.

Адзін гаспадар—І. Краўчук рэкамэндуе вельмі цікавы спосаб заховаць прышчэпы ад зайцаў. Для гэтага ён бярэ старое сала, топіць яго і ў перакіпячонае сала макае патрэбную колькасьць грубых нітак, кожная даўжынёй

50—60 санцымэтраў. Калі ніткі набяруцца сала, дык іх выймае, дае час астыцць і прывязвае толькі адну нітку да прышчэпу. Быццам зайцы, ходзячы каля маладога дрэўца з такой ніткай баяцца, яго зачапіць.

Пажадана гэты просты і цікавы спосаб праверыць, што ня вымагае ад гаспадара значных затратаў грошаў і часу. Рэкамэндаваць з свайго боку пакуль што рэдакцыя удзержваецца.

**Пытаньне.** Якой вадой найлепш паіць скаціну зімой.

**Т. Сыч.**

**Адказ.** Звычайна сяляне ў нас поюць скаціну зімой або на рэчцы, або каля студні. Звычай паіць скаціну сьцюдзёнай вадой часта шкодна адбіваецца на здароўі жывёлы. Апрача таго, халодная вада адбірае шмат ад аргтнізму цяпла, на папаўненьне якога жывёла патрабуе больш корму. Найлепш паіць скаціну зімой хатняй вадой, што ноч перастаяла ў хаце. Такая вада саграваецца да 12° R.

Самы лёгкі спосаб грэць ваду для скаціны ў хляве. Для гэтага бяруць звычайную драўляную пасудзіну (бочку), і аставяць яе дзе-небудзь у свабодным кутку хлява і абкапваюць гноем. Звычайна занач вада саграваецца і раніцай такой вадой можна паіць скаціну.

Пры гэтым трэба пільна сачыць, каб пакрышка шчыльна приставала да краёў пасудзіны і не давала магчымасьці прабрацца хлеўным газам да сярэдзіны. Ваду з бочкі кожны раз выбіраюць чыста, каб вада не сапсавалася на другі раз. Разы два ў тыдзень трэба бочку мыць.

Для паеньня вечарам, бочку наліваюць вадой раніцай.

**Пытаньне.** 1) Дзе можна набыць машыну—лёнамялку і колькі яна каштуе? 2) На якім грунце лепш удаецца лён і якога ён патрабуе ўгнаеньня?

**Раман Паўлюкевіч.**

**Адказ.** Рэдакцыя „Сахі" дае бязплатна на старонках часапісі парады і не падпісчыкам сваім, калі парада мае грамадзкую вартасьць.

1) Жаданую Вамі машыну лёнамялку можна набыць у Вільні: Завальная вуліца 11-а Зыгмунт Нагродзкі; каштуе 200 зл. на месцы.

Рэдакцыя „Сахі" заказала зрабіць модэль самадзельнай лёнамялкі, якая распаўсюджана па вёсках Дзісеншчыны і Пастаўшчыны. З гэтай модэльлю азнаёмяцца ў Рэдакцыі тыя чытачы, якія зажадаюць зрабіць яе самі, і якія будуць мець магчымасьць быць у Вільні. Пастараемся зрабіць падрабязнае апісаньне самадзельнай машыны з рысункамі на старонках „Сахі" у наступных нумарох. 2) Гатовім у чародных нумарох аб культуры лёну спэцыяльны артыкул.

**Пытаньне.** 1) Калі лепей вывозіць гной пад бульбу? 2) Ці трэба вясновую вывозку гною заворваць? 3) Ці можна будзе цераз Рэдакцыю „Сахі“ выпісваць насеньня культурных расьлін, або яек племяных птушак?

П. Лабоцкі.

**Адказ.** 1) Вываз гною і яго заворваньне увосень заўсёды лепш адклікаецца на ўраджаі бульбы. 2) Па гэтай самай прычыне (калі гаспадар чамусьці не пасьпеў вывясьці гной увосень) карысна яго вясной чым раней вывесьці і плытка загараць. У баразну з бульбай гной накідваць не рэкамэндуецца, бо часта, асабліва пры мокрай пагодзе, бульба, пакуль прарасьці, гніе і заражаецца спэцыяльнымі хваробамі, як парша бульбы і іншыя. 3) Жадаемага Вамі насеньньня можна дастаць у Вільні у Складзе „Зыгмунт Нагродзкі“ Завальная 11-а. За інфармацыямі аб месцы, дзе дастаць яек племяных птушак, зьвярніцеся да Związku Kółek Rolniczych: Wilno, Wielka Pohulanka 7.

# ПАРАДЫ ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ.

## Прыгатаўленьне баўгарскай сыраквашы.

У нас на Беларусі ня толькі па вёсках, але і па гарадох мала распаўсюджваецца прыгатаўленьне баўгарскай сыраквашы. Між тым яе лекавыя асаблівасьці даўно ўжо зьвярнулі ўвагу мэдыцыны, якая часта цяпер прыпісвае хворым баўгарскую сыраквашу як лекарства проці некаторых хваробаў. У часе халеры, чумы, мыта і пры іншых пошасьцях баўгарская сырakваша хутка спыняе хваробу. Практыка ўсталіла, што карысьць ад лячэньня сыраквашай вялізная. У Нямеччыне, дзе раней не зьвярталі ўвагі на гэту сыраквашу, цяпер шмат хто ёю лечыцца. Ёсьць прыхільнікі ўжываньня баўгарскай сыраквашы, якія сьцьвярджаюць, што яна быццам дзеіць на псыхічны стан чалавека, робячы яго больш жыцьцёрадасным, а некаторыя пайшлі далей і прыпісваюць баўгарскай сыраквашэ дзеяньне проці ранняе старасьці.

Як там ня было, а лекавыя асаблівасьці баўгарскае сыраквашы даказаны. Уся карысная моц гэтае сыраквашы заключаецца ў тым, што ў ёй знаходзіацца асобыя пароды бацыляў—*лякто-бацылі*, якіх знайшоў вялікі расейскі вучоны Мечнікаў. Гэтыя лякто-бацылі жывуць на паўдні і, пападаючы з паветра ў малако, робяць з яго смачную, густую і трывалую з добра выпрацаванай кіслатой сараквашу. У кішкох чалавека гэта лякто-бацыля, а асабліва яе прадукт жыцьцядзейнасьці — малочная кіслата адыгрывае ролю запраўднага абаронца чалавека, зьнішчаючы розных шкадлівых бактэрыяў, якія гінуць ад кіслаты, а асабліва ад такой моцнай, якую выпрацовываюць лятобацылі.

Дзеля таго, што ў нашай звычайнай сараквашы ня маецца гэтае карыснае ляктобацылі, якая ў паветры на Беларусі жыць ня можа, а замест яе пападаюць у малако мясцовыя гатункі малочна-кіслотных бактэрыяў [1]), патрэбна выпісаць закваскі (чыстае культуры ляктобацылі) якой і заквасіць малако. Закваскі бываюць сухія і жыдкія. Першыя захоўваюцца да 20 дзён, другія (сухія) да 4-х месяцаў; дзеля гэтага трэба звярачваць увагу на час прыгатаўленьня, які павінен быць адзначаны на заквасках.

Прафэсар С. Парашчук (Б. С. Р.) у брашуры „Што можна прыгатаваць з малака" дае для прыгатаўленьня баўгарскае сараквашы наступныя парады:

„З вадкіх (жыдкіх) заквасак сыраквашу прыгатаўляюць так: перш за ўсё дастаецца сьвежае добрае малако, яго зараз-жа гатуюць і гарачае разьліваюць у шклянкі, пакрыўшы іх чыстай паперай. Калі малако астыне да тэмпэратуры чалавечага цела, дадаць закваскі з разьлікам паўгарбатнай лыжкі на шклянку малака. Шклянкі з заквашаным малаком пакрываюць чыстай паперай і стаўляюць у цёплае месца, каб яно скісла.

Праз 6—10 гадзін, у залежнасьці ад тэмпэратуры, сараквашa гатова і яе належыць вынесьці на холад, каб набралася сілы, пасьля чаго яе можна ўжываць. Пасудзіну з жыдкай закваскай увесь час трэба трымаць у холадзе, але не на марозе. Пры ўжываньні закваскі асьцярожна вымаюць корак, хутка адліваюць патрэбную колькасьць і ізноў шчыльна закаркоўваюць. Непасрэднае прыгатаўленьне сараквашы з сухой закваскі ня робіцца. Сухія закваскі служаць толькі для вырабу вадкіх заквасак, апошнімі карыстаюцца для прыгатаўленьня сараквашы.

Сьпярша невялічкая бутэлька, напрыклад, сотка, добра прамываецца вадою, пасьля напаўняецца да ¾ самым сьвежым і толькі што спараным малаком і затыкаецца абвараным чыстым коркам. Калі малако ў бутэльцы астыне да прыемнае цяплыні, тады асьцярожна адчыняюць шкляную ампулку з сухое закваскі і, адчыніўшы таксама бутэльку, асьцярожна ўсыпаюць крыху парашку (1/10 частку) у бутэльку з малаком. Зачыніўшы закваску і бутэльку, апошнюю, каб лепш перамяшаць закваску з малаком, добра ўстрасаюць, пасьля стаўляюць у цёплае месца на скісаньне.

Праз 15—25 гадзін малако ў бутэльцы скруціцца і вадкая закваска гатова. Ёю карыстаюцца, як апісана вышэй".

---

1) Бактэрыі, ляктобацылі—нявідзімыя звычайнаму воку жывыя істоты. Іх можна прыкмеціць толькі праз сільна павялічваючы інструмант—мікраскоп.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі—Вільня, вул. Св. Анны 2.
**Выдавец і Рэдактар А. Уласаў.**

№ 158